Самапомач Гаспадарам

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 12 (65).
Год VI.
Вільня. 10-га Жніўня 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.
АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.

# Абое рабое.

(*Аб коопэрацыі*).

Пабеларуску (з беларускага гледзішча) гаварыць сягоньня аб коопэрацыі — не заўсяды бясьпечна. Прыкладам гэтага ёсьць наша спроба з прычыны сёлетняга „Дня Коопэрацыі“, калі сам часапіс быў сканфіскаваны, а рэдактара чакае йшчэ за гэта судовая расправа. З тым большай цікавасьцю варта паслухаць, як за коопэрацыю спрачаюцца паміж сабою тыя, хто сяньня ў коопэрацыі ў Польшчы йграюць першую скрыпку. Вот-жа нехта Б. Загнанскі, у „Dzien. Wil.“ з д. 9 ліпня сёл., між іншым пісаў гэтак:

„...Коопэрацыя ў Польшчы ёсьць рухам адносна маладым, але адыйгрываючым значную ролю ў нашым гаспадарчым жыцьцю. Значэньне гэта ў вялікай меры, можна сказаць, выключна залежыць сяньня ад чыньнікаў урадавых, інстытуцый грамадзкіх, якія сваімі магутнымі ўплывамі падтрымліваюць і вядуць крохкі карабель коопэратыўнай бюрократыі... Коопэрацыя ўсюды зьяўляецца тым мілым дзіцяткам, на якое дзьмухаюць і якое ўтрымоўвуюць у варунках оранжэрыйных“, у каторых магла-б нарадзіцца „коопэратыўная рэспубліка“, грамадзяне якой „мусілі-б хутка паддавацца на націсканьне розных схаваных спружынаў і сядзець ціха, быццам мыш пад мятлой“.

Будучыня, як бачым, невясёлая. Але пашто яна рысуецца? Ці для сапраўднага дабра коопэрацыі, ці для дабра „збюрократызаванага грамадзянства?“ Зусім не. Аўтор гэтых „малюнкаў“ ня ласкаў на коопэрацыю наўперад за тое, што... не вялікі мае да яе доступ і што коопэрацыя хутка „пачне корчыцца на карысьць ініцыятывы прыватнай, значна карысьнейшай для **польскага** народу“.

На гэтыя і падобныя вывады эндэцкага павадыра адказвае „Spólnota Pracy“ між іншым гэтак:

„...Ня можам згадзіцца, што (коопэрацыя) сваім значэньнем *сягоньня* забавязана чыньнікам урадавым, прывілеям і г. д. Каму і чаму коопэратыўны рух мае быць удзячным за сваё знамянітае разьвіцьцё ў зараньні свайго існаваньня — ў часе няволі Польшчы? Ці таксама ўрадавай помачы?.. Калі гаварыць аб прывілеях, дык паводле „Społem!“ „...далі яны для адных толькі 1000 спажывецкіх коопэратываў на 695.000 зл. больш розных аплатаў, чым у той-жа час плацілі падобныя прадпрыемствы прыватныя“. Тое самае ў коопэрацыі малачарскай, тое ў коопэрацыі крэдытовай (конвэрсія!). І міма таго аднак „міліоны спажыўцоў і вытворцаў ідуць у коопэрацыю дабравольна“.

З дальшых гутарак аднэй і другой стараны выясьняецца тое, што ня толькі праціўнікі коопэрацыі ставяць сабе за мэту папольшчыць гандаль, але і староньнікі тэй-жа коопэрацыі цьвердзяць, што „гандаль, бяз увагі на форму прадпрыемства, павінен быць **„ународовёны“ — „польскі“...** і г. д. і г. д.

Якая-ж тады між абедзьвюмі старонамі розьніца? Афіцыяльна:

Б. Загнанскі і „іже с нім“— гэта староньнікі „прыватнай ініцыятывы“ і такіх супалак, каторых „дэфініцыя выглядала-б падобнай да коопэрацыі— супалка з агранічанай адказнасьцю, з зьменным капіталам і зьменным лікам супольнікаў“, каб гэты „супольнік мог чагосьці дапрацавацца“, бо „ў коопэратыве ўсё пажырае бажышча коопэрацыі для сябе, а сябра коопэратывы астаецца без граша, як быў прад тым“. Прадстаўнікі коопэрацыі на гэта кажуць, што сьведамы чалавек не павінен дацца, каб яго выкарыстываў прыватнік, што „не пазволіць“, каб на далей прыватны „гандаль астаўся курачкай, якая нясе залатыя яечкі“. Урэшце быццам „коопэрацыя нікога ня прымушае, нават часам памагае тым, хто проці яе выступае, аб чым сьведчыць сёлетняя пастанова Коопэратыўнай Рады з 17.III, паводле якой: „Кооп. Рада ўважае за патрэбнае арганізаваньне купецкіх коопэратываў на падставе адпаведнай для іх формы супалак, з зьменным капіталам і асабовым складам,

але не на падставе закону аб коопэратывах“. Канчаюць свае доказы афіцыяльныя абаронцы коопэрацыі моцнай заявай, што „вызыск адзінкі паасобку ці ў супалку заўсяды астанецца вызыскам, прад каторым сьведамае грамадзянства будзе заўсяды бараніцца, арганізуючы прадпрыемствы, якія будуць рэпрэзэнтаваць і бараніць ягоныя інтарэсы“.

Вельмі, моцна!! Вельмі добра! — але...

Ці так ужо сапраўды з чыстым сумленьнем можна раўняць варункі разьвіцьця польскай коопэрацыі „ў зараньні існаваньня — ў часы няволі Польшчы“, з варункамі разьвіцьця *сягоньня?* — Ці гэта сяньняшняя „дабравольнасьць“ сяброўства ўсіх — і няпольскіх коопэратываў у польскіх коопэратыўных саюзах ёсьць сапраўды **дабравольнай?** — Ці Коопэратыўная Рада — найвышэйшая ўстанова коопэрацыі ў Польшчы, якая нават рупіцца аб тых, „хто проціў яе выступае“, якая дае свой важкі голас за тым, каб тварыліся „коопэратывы купецкія на падставах адпаведнай для іх формы...“, ці гэта Коопэратыўная Рада дала калі свой голас за тым, каб самыя коопэратывы мелі магчымасьць разьвівацца ў формах для іх *адпаведных*, напр. не накідаючы сябром сваім у ўрадаваньні чужой мовы, ня кажучы ўжо аб свабодным выбары арганізацыйных формаў, якія згары азначаны законам, хоць тая-ж Рада ўважала за магчымае паказаць на патрэбу коопэратываў купецкіх, якіх закон таксама не прадбачыць?..

Гэткіх і падобных пытаньняў можна снаваць бяз меры. Горш з адказамі на іх: пробавалі мы гэта рабіць у № 8, але... адказ дайшоў толькі да цэнзара Віленскіх адміністрацыйных уладаў. Таму ўстрымаемся тымчасам ад адказу і тут: зробім гэта на публічнай расправе судовай, якая нас чакае за ўспомненую канфіскату, і на гэту расправу зацікаўленых шчыра запрашаем.

Тымчасам-жа сьцьвердзім толькі, што не па дарозе нам ані з „прыватнікамі“, якія ўсё ацэніваюць з пункту гледжаньня „прыватнай ініцыятывы, значна карысьнейшай для польскага народу“, як не па дарозе нам ані з афіцыяльнай коопэрацыяй, якая хоць і кажа, што нас „рэпрэзэнтуе“, але якая дагэтуль нас не „бараніць“. Аб гэтых дзьвюх, сягоньня для вока пасвараных, старонах мы можам з поўным правам сказаць: „абое рабое“.



## Скасаваньне саўгасаў у БССР.

Пастановай Рады Народных Камісараў ССР зьліквідаваны ўсе 138 саўгасаў (парасейску — соўхозаў), якія дагэтуль існавалі на абшары Савецкай Беларусі. Скарыстаць з гэтага маюць калгасы (парасейску — калхозы): 480 тыс. гэктараў саўгаснага лесу пераходзіць на вечнае ўжыткаваньне калгасаў, а кожны калгасьнік апрача таго мае дастаць на ўласнасьць малы зямельны надзел. — Урадавыя савецкія прадстаўнікі заяўляюць сягоньня, што саўгасы ў Беларусі гэта твор... польскай разьведкі і яе прыслужнікаў.

## Małačarstva ŭ Niamieččynie.

Małačarski rynak, jak i ŭsia haspadarka ŭ pradhitleraŭskaj Niamieččynie, apiralisia na padstavach ekanomii liberalnaj, u jakoj ab usim pastanaŭlaje nieabmiežavanaja konkurencyja. Hetyja padstavy i celaja systema liberalizmu ŭ suśvietnaj haspadarcy na kolki apraŭdyvali siabie ŭ časoch spakojnych, na hetulki pakazalisia niazdatnymi ŭ paru paślavajennuju. Asabliva dalosia heta ŭ znaki ŭ małačarskaj haspadarcy paślavajennaj Niamieččyny, dzie ziemlarobam nie apłačvaŭsia vyrab małaka, a spažyviec nia moh jaho dakupicca.

Vyrazna kažučy sprava vyhladała hetak. U 1929 h. za litr małaka ŭ bolšych haradoch spažyŭcy płacili 26—28 fenigaŭ, za kilo masła ŭ hurcie 4 marki, u detali 5 marak. U toj-ža čas vytvorcy (sialanie) za litr małaka da biezpasiaredniaha spažyćcia atrymoŭvali 16—17 fenigaŭ, za litr takoha-ž małaka praznačanaha na vyrab masła — 16—18 fen., a za litr małaka na vyrab syru — 16—22 fenigi. A ŭžo hod paźniej, u 1930 h. ceny tak załamalisia, što za litr małaka na vyrab masła płacili tolki 7—8 fen., tady jak ceny małaka praznačanaha da biezpasiaredniaha spažyćcia (znača ŭ formie małaka) ŭtrymoŭvalisia na vyšyni 24 - 26 fen. za litr. Pry hetkich varunkach sami sialanie z-za 60 klm vazili małako ŭ harady i raznosili pa chatach, a što nie pradali, toje zmušany byli adstupić maślarniam pa 6, a navat pa 5 fen. za litr. Na pieršy pahlad zdavałasia, što pryčyna takoj niasumiernaści ŭ tym, što za mnoha było małaka. Ale heta tolki tak zdavałasia, bo sapraŭdnaj pryčynaj takoha stanu byli nieparadki ŭ handli małakom i małočnymi praduktami.

Hetyja nieparadki nia byli niaviedamymi niamieckamu ŭradu, jaki ŭ tym-ža 1930 h. vydaŭ adpaviednaje rasparadžeńnie, ale nie znajšoŭ na miascoch vykanaŭcaŭ. Hetki stan na rynku małačarskim zastaŭ urad Hitlera, kali pryjšoŭ da ŭłady ŭ 1933 h. Nia bačučy inšaha vychadu, novy ŭrad chapiŭsia za vyprabavańnie žyćciovaj vartaści syndykalistyčnaj teoryi praf. Ruhlanda. U m-cy lipni 1933 h. ŭrad nadaŭ svajmu Ministru Ziemlarobstva i Pracharčavańnia nieahraničanyja ŭ hetym kirunku paŭnamoctvy. Ministr z svajho boku zaraz-ža naznačyŭ asobnaha kamisara da spraŭ małačarstva, dajučy jamu nakaz zaraz-ža prystupić da pracy ŭ adnym tymčasam vokruzie, u Reinlandzie, a try miesiacy paźniej — va ŭsiej dziaržavie.

Uvieś abšar Niamieččyny byŭ padzieleny pamiž 15 małačarskich sajuzaŭ, a ŭsie małačarni sarhanizavany ŭ 69 sajuzaŭ małačarniaŭ, jakija musili dastaŭlać u pablizkija harady dobraje i tannaje małako. U sajuzie małačarniaŭ zasiadali: producenty małaka (sialanie), pradstaŭniki pryvatnych i kooperatyŭnych małačarniaŭ i handlaroŭ małakom. Hetyja sajuzy małačarniaŭ padlahali adnamu z 15-cioch krajovych Małačarskich Sajuzaŭ, a kožny taki sajuz zaležyŭ ad uradavaha kamisara da spraŭ małačarstva, jaki ŭ svaju čarhu zaležyŭ ad Ministra Ziemlarobstva.

Uradavy kamisar daŭ krajovym Małačarskim Sajuzam prava vydavać rasparadžeńni z važnaściu zakona ŭ hetkich kirunkach: ab dastavie sapraŭdy patrebnaj kolkaści małaka ŭ harady (asiarodki spažyćcia), ab dakładnym ustanaŭleńni abšaraŭ, z katorych možna dastaŭlać zhary aznačanyja kolkaści małaka (kontyngienty) ŭ harady i ab zabaronie pryvazić małako ŭ hetyja-ž harady z abšaraŭ, jakim hety kontyngient nia prydzieleny; ab ustanaŭleńni słušnych cenaŭ dla vytvorcaŭ, dastasoŭvajučy ich da nabyŭčych mahčymaściaŭ spažyŭcoŭ; ab kantroli jakaści małaka i prydziele kontyngientaŭ dla padharadzkich haspadarak i małačarniaŭ: bližejšyja małačarni dastali bolšyja kontyngienty i naadvarot; ab ustanaŭleńni specyjalnaha nałohu (na

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Ашчаджайма пашу.

Сёлета з пашай вырабленай у гаспадарцы будзе туга. Мала будзе сена, ня можна шмат спадзявацца і мяшанак — дзе іх сеюць — а ня будзе шмат і саломы, якая патрэбна ня толькі як паша, але і як падсьцілка.

Наўперад трэба зорыентавацца, якую пашу маем. Трэба зважыць сена, канюшыну, мешанку, бульбу, салому і г. д. Ня так гэта трудна, як каму здаецца. Досыць зважыць адзін напр. мяшок бульбы, і ведаючы, колькі было накапана усіх мяшкоў, можна аблічыць колькі накапана бульбы ўсяго. Гэтак сама можна задаць сабе труд зважыць адзін воз сена, саломы і г. д., каб ведаць, колькі маем гэтых пашаў. А гэта аплаціцца.

Трэба скончыць з кармленьнем „і а вока“. Увосені гаспадару заўсяды здаецца, што ў яго вялікія запасы; таму корміць ён увосені не шкадуючы, а вясной жывёла ягоная стаіць за пустым жлобам ці драбінай. Чым менш маем пашы, тым ашчадней трэба з ей абходзіцца, не марнаваць. Калі даваць карове за шмат пашы, дык яна крыху зьесьць, што знайдзе смачней шага, а рэшту выкідае з жлобу ў гной. Ведаючы, колькі маем пашы, даём толькі гэтулькі, колькі выпадае з рахунку, каб ня прыйшлося ўвосені прадаваць жывёлы за бязцэн, бо тады ўсё зімовае кармленьне гэта грошы выкіненыя ў балота. Калі пашы акажыцца за мала, каб выкарміць да вясны ўсю жывёлу, дык далёка выгадней прадаць лішнюю жывёлу яшчэ раньняй восеняй, чым без патрэбы карміць дарагой пашай праз цэлую зіму па тое, каб прадаць за тыя самыя грошы вясной.

Шмат пашы марнуецца дзеля таго, што нашы людзі прывыклі даваць яе цэлай, без увагі на тое, ці гэта сена, салома, канюшына, зялёная мешанка ці што іншае. Ня будзе стратаў, калі ўсё гэта, ня выключаючы зялёнак, будзем рэзаць на доўгую сечку, 5-8 см. Гэткую сечку, пэўна-ж, не даём за драбінку, але сыплем у жлоб. Карацейшая сечка тым горшая, што яе жывёла глытае не пережаваўшы і не прасьлініўшы і таму такая сечка праходзіць праз увесь стравапраўчы апарат (трыбух, кішкі) ня выкарыстанай, а знача — змарнаванай. А калі ходзіць аб коняў, дык яны часам бываюць на гэтулькі хітрыя, што шукаючы аўса храпамі выдзьмухіваюць з жлаба ўсю сечку. Калі-ж даць сечку доўгую, дык яна ўжо цяжэйшая і так лёгка выдзьмухаць ня дасца. Добра таксама, калі сечку паліць вадой і перамяшаць, каб папрылілапа да зярняці. Гэткай сечкі конь ня выдзьмухае, а прад палыканьнем мусіць яе дакладна прасьлініць і пережаваць. Тое самае трэба сказаць і аб сечцы для кароў.

Калі даём скаціне ці коням якую-небудзь пашу зялёную вельмі маладую, асабліва люцэрну, канюшыну, стручковыя мешанкі, дык гэткую зялёнку трэба таксама парэзаць на сечку і перамяшаць такжа з сечкай саламянай ці з горшага сена. Інакш — бялкі, якіх у такой зялёнцы бывае вельмі шмат, і якія зьяўляюцца вельмі дарагім кормам, ня могуць быць належна выкарыстаны.

Таксама ня цэлую салому трэба ўжываць і на падсьцілку, а доўга (10—15 см.) парэзаную. Гэткая сечка лепш насысаецца гнойнай жыжкай, менш выходзіць саломы на гэту падсьцілку, а сам гной з каароткай саломы ёсьць лепшым.

Паз.



kożny litr) ad upryvilehijavanych małačarniaŭ na karyść tych małačarniaŭ, jakija dastaŭlajuć małako na vyrab masła; ab zabaronie pradučentam i małačarniam pradavać małako biezpasiaredna spažyŭcom; ab ustanaŭleńni i zapeŭnieńni kaniešnaj kolkaści małaka dla pierarobki ŭ kožnaj małačarni, kab naležna vykarystać siłu mašyn i ludziej; ab pracyščańni ŭsiaho małaka ŭ małačarniach; ab ustanaŭleńni dzie, kolki i jakija patrebny małačarskija kramy i h. d.

Hetkija mierapryjemstvy ŭradavaha kamisara znajšli zrazumieńnie fachovych małačarskich arhanizacyjaŭ i tamu rynak małačarski byŭ chutka apanavany. Zakonam z śniežnia m-ca 1933 h. byŭ ahraničany pryvoz małaka i małočnych praduktaŭ z zahranicy, a heta dało padstavu da ŭstanaŭleńnia i vyraŭnańnia cenaŭ na hetyja pradukty. Pradučent, jaki vyrablaje taniej, płacić vyraŭnaŭčy padatak u fond, z jakoha atrymlivaje zapamohu toj, u kaho košty pradukcyi vyšejšyja.

I što pašla ŭsiaho hetaha akazałasia?

A voś što. U 1935 h. ziemlaroby Niamieččyny vyrabili 23.7 miliarda litraŭ małaka. Za pradanaje małako atrymali 3 687 milijardaŭ marak, tady jak prad paradkavańniem rynku tyja ž ziemlaroby atrymoŭvali za małako tolki 2.29 milijarda marak. Znača rehulavańnie małačarskaha rynku dało małačarom Niamieččyny lišnich 1.397 milijarda marak u hod. Spažyŭcy za hety samy hod zapłacili za małako na 250 milijonaŭ marak bolš, a ad handlu na karyść pradučentaŭ pierajšło tak-ža 1.147 milijardaŭ marak.

Ustalenyja za apošnija dva hady ceny za małako i małočnyja pradukty pazvolili dumać nad arhanizavańniem jašče ŭ 1931 h. „Haloŭnaha Sajuzu Małačarskaj Haspadarki“, kiraŭnik jakoha atrymaŭ taksama nieahraničanyja paŭnamoctvy da kiravańnia małačarskim rynkam, ukłučna da rasšyrańnia ci zamykańnia peŭnych małačarskich placovak. Načalnaja ŭłada nad usimi spravami ciapier uznoŭ pierajšła da Ministra Ziemlarobstva...

Vyrazny abraz małačarskaha rynku ŭ Niamieččynie padajuć nastupnyja tablicy cenaŭ małaka i masła ŭ Berlinie za apošnija 4 hady:

*Ceny za litr małaka ŭ fenigach:*

| Hod | Atrymoŭvaŭ pradučent | Płaciŭ spažyviec | Zarabotak i roznyja apłaty |
|---|---|---|---|
| 1933 | 13.85 | 24 | 10.15 |
| 1934 | 15.44 | 24 | 8.56 |
| 1935 | 15.60 | 24 | 8.40 |
| 1936 | 15.60 | 24 | 8.40 |

*Ceny za klh masła ŭ markach:*

| Hod | Atrymoŭvaŭ pradučent | Płaciŭ spažyviec | Zarabotak i roznyja apłaty |
|---|---|---|---|
| 1933 | 2.18 | 2.86 | 0.68 |
| 1934 | 2.51 | 3.11 | 0.60 |
| 1539 | 2.54 | 3.12 | 0.58 |
| 1936 | 2.54 | 3.12 | 0 58 |

Heta karotki tolki pierahlad tych vialikich sprobaŭ, jakija za apošnich kolki hadoŭ rabilisia ŭ Niamieččynie, kab azdaravić małačarski rynak. Tyja, što da hetych sprobaŭ pryhladalisia zblizka, zhodna ćvierdziać, što teoryja syndykalizmu tymčasam u poŭnaści apraŭdałasia: pry spraŭnaj arhanizacyi rynku zbytu možna bolš praduktaŭ vyrablać, bolš zatrudniać ludziej, zadavalniajučy hetym jak vytvorcu, tak i spažyŭca. Jak specyjalny sakret udačy niamieckał a prykładu pakazvajuć na toje, što da vykanańnia vialikaha planu byli paklikany nie biurakratyčnyja čynoŭniki, a fachovyja arhanizacyi. A znača i tut jašče adzin dokaz, jak važnaj jość aśvieta i arhanizacyja. K.

*Pavodle „Sp. Pracy“.*



# Новае сена і новы авёс.

Сена і авёс гэта аснова конскага корму... Але пытаньне кармовай вартасьці новага (сьвежага) сена і новага аўса толькі што сабранага з поля цікавіла людзей вельмі аддаўна.

Сьвежае сена, таксама як і сьвежы авёс, уважаюцца часта як неадпаведнія да корму зараз пасьля збору з поля, асабліва для коняў. Кажуць пры гэтым, што сьвежае нявыпараўшаеся сена можа быць у коняў прычынай цяжкіх колькаў, жаўтачкі, сільнага паценьня, атупеласьці і бязсільля. Дзеля гэтага старыя гаспадары перасьцерагаюць прад скармліваньнем новага аўса безпасярэдна па сабраньні з поля і праз шэсьць тыдняў пасьля сабраньня. У гэтым часе новае сена быццам яшчэ „працуе", выпароўваецца, у ім адбываецца йшчэ нейкае „квашэньне", пры каторым шкодныя сучасткі з сена выдаляюцца.

Праўду кажучы нічога гэтага дакладна ня было даказана. Акрамя ўбытку вады і абніжэньня пахучасьці сена, не даказаны ніякія „квашэльныя" працэсы, якія зьмянялі-б істоту сена, а гэтым самым ягоную прыгоднасьць да кармленьня. Ды ўрэшце гэта справа другарадная, што ў каня накормленага сьвежым сенам сапраўды часта здараюцца страватраўныя забурэньні і колькі. Адныя тлумачаць гэтыя колькі і іншыя забурэньні тымі якраз „квасным" працэсамі („нявыпаранасьцю", „неадлежанасьцю"), іншыя — а між імі ёсьць часта і добрыя гаспадары — паклікаюцца на тое, што віна тут ня ў тым, што ў сене ёсьць, але ў спосабе скармліваньня яго. Вясной з канешнасьці сена ашчаджалася, а як адрыні напоўняцца і коням даецца новага сена ў волю, дык коні ім перапіхаюцца, зьядаючы больш, чым могуць добра зьнясьці і стравіць.

Гэта тлумачэньне кажа вельмі шмат. Не забывайма, што кожны раптоўны пераход ад аднэй пашы да другой зьвязаны з пэўнай небясьпекай для здароўя. Дык таксама трэба глядзець і на пераход ад кармленьня старым, добра высушаным сенам да сена новага, у якім больш вады і пахучых (араматычных) сучастак. Калі дадаць, што гэтага новага сена даецца ўдоваль і нават праз меру, дык колькі конскія вытлумачыць лёгка і без якіх-небудзь „квасных" працэсаў у сьвежа сабраным сене. Там, дзе новым сенам кормяць асьцярожна, у меру, там, дзе коням нанач не закладаецца сена за драбінку (яслі), каб страватраўчы апарат меў час на траўленьне і адпачынак, там няма страху прад новым сенам. Захоўвайма дзеля таго тут пэўную гаспадарнасьць, якая адначасна будзе асьцярожнасьцю перад магчымымі забурэньнямі здароўя!

*З новым аўсом справа падобная!* Пытаньне скармліваньня новага аўса ў апошнія часы была прадметам многалікіх досьледаў і пробаў, у каторых было пацьверджана, што *новы авёс як корм для коняў ёсьць няшкодны, калі ён здаровы* (незаплесьнены) *і калі ўключаецца ў дзенны корм часткамі, з павольным пераходам ад аўса старога*. Інакш аднак бывае пры пераходзе раптоўным. Тут маецца справа падобна, як пры сене. Новы авёс як корм зьяўляецца на рынку ў пару, калі коні цяжка працуюць (працы пасьля прыбіраньня з поля, капаньне акопнін, прыгатаваньне да азімай сяўбы) і калі, натуральна, даюцца так-жа большыя порцыі аўса.

Новы авёс коні любяць больш як стары і яны яго ядуць з вялікім смакам, кепска раскусваючы. І ў гэтым якраз трэба шукаць прычыну колькаў і страватраўчых забурэньняў у каня кормленага сьвежым аўсом. Гэта пацьвердзілі таксама: спэцыяльная камісія французскага ваеннага міністэрства і чэскі прафэсар Кучэра; гэты апошні прыйшоў да пераканаваньня, што калі коні дастаюць сьвежы авёс перамешаны з старым і памалу пераходзяць да новага, дык не настаюць ніякія забурэньні. Таксама было і тады, калі сьвежы авёс падаваўся коням перамешаны з сечкай.

Тут трэба аднак зазначыць, што новы авёс мусіць быць здаровы, ня стухлы ці паплесьнены. Калі-ж авёс сплесьнее ці стухне, дык яго трэба сушыць штучна ў хлебных печах. Калі авёс стухне толькі часткова, дык часам удаецца яго прасушыць праветрываньнем і мяшаньнем з сьцёртым на парашок дзераўляным вуглём. Сплесьніўшаму аўсу аднак так ужо не паможам: тут астаецца такі авёс ужо толькі або спарыць або зварыць. Урэшце трэба і тое мець на ўвеце, што як стухлы так тымбольш сплесьніўшы авёс бывае прычынай вельмі небясьпечных хвароб у ўсякай жывёлы.

**Праф. В. Калял.**
*„Milot. Hosp."*

---

**Інж. Ад. Клімовіч.**

# Асновы земляробскай эканомікі.

8)

* * *

*(Правілы севазвароту).*

З часам паўсталі севазвароты з большым лікам палёў, з 7, 8, 9, 10, 11 і 12-цю. Чаргаваньне расьлін у гэтых палёх ня ёсьць выпадковае, але кіруецца правіламі, якія былі знойдзены і пацьверджаны жыцьцём. Гэтыя правілы так важныя, што кожны земляроб іх мусіць ведаць, асабліва сягоньня, бо знаньне іх пазваляе ня толькі большы мець ураджай з поля, але і танейшым коштам да яго даходзіць.

Галоўным такім правілам ёсьць, каб папярэдняя расьліна прыгатаўляла, быццам, грунт пад расьліну наступную. Гэта магчыма, калі выкарыстаць свомасьці паасобных гаспадарскіх расьлінаў: a) закарэніваца на большай ці меншай глыбіні глебы, b) выбіраць з глебы або ўзбагачываць яе на найважнейшую гнойную сучастку — азот, c) глушыць на полі ці разваджваць рознае пустазельле (траву), d) пакідаць па сабе глебу ў будове зьбітай (няпрыгоднай) ці зярністай (пульхнай). Урэшце трэба ведаць, што адны расьліны любяць сьвежае гнаеньне (сьвежую або першую *гнойную сілу*), іншыя—толькі церпяць гэта, а яшчэ іншыя — першай гнойнай сілы зусім няздольны вытрымаць. — Як-жа ўсё гэта пагадзіць і выкарыстаць? Пачнём ад першага.

Адны расьліны маюць кароткія карэньні, а іншыя — доўгія. Да першых належаць перадусім збажавіны, а да другіх — канюшына і ўся рэшта расьлін матыльковых. Калі сеяць па сабе самыя толькі расьліны з мелкімі карэньнямі, або з самымі толькі карэньнямі глыбокімі, дык яны за год, за два высмакчуць зямлю з гнойных сучастак і яна перастане радзіць. Каб да гэтага не дапусьціць, трэба старацца адзін год сеяць на даным полі расьліну з глыбокім карэньнем, а другі — з мелкім.

Усе расьліны патрабуюць азоту, якога поўна ў паветры, але мала ў зямлі. Але карыстацца азотам з паветра а нават узбагачываць зямлю ў гэты азот здольны толькі расьліны матыльковыя і стручковыя (лубін, сэрадэля, чырвоная і белая канюшына, люцэрна, віка, гарох, шальбабон (фасоля) і інш.). Дзеля таго трэба гэтыя расьліны сеяць у перамешку з расьлінамі, якія азоту з паветра прыймаць ня могуць (збожа, акопніны).

Расьліны збажовыя звычайна пакідаюць па сабе глебу запушчаную як што да будовы (зьбітая), так і што да расьліннасьці (пустазельле, пырнік): будову глебы папраўляюць і ўсякае пустазельле глушаць расьліны шыроколістыя: матылькова-стручко-

# Вада для хатняй жывёлы.

Наша хатняя жывёла патрабуе шмат вады, як узімку так і ўлетку. Натуральна, вада такая павінна быць зусім чыстай, бязколернай і празрыстай, бяз смаку і чужога запаху, бо занячышчаная вада мсжа быць прычынай ня толькі за разных хвароб, але і жалудачных недамаганьняў. Асабліва пераборлівыя на ваду бываюць коні. Менш пераборлівай на ваду бывае скаціна, якая часта п'е ваду з лужаў і прыдарожных равоў.

Вельмі шкоднай бывае вада з багнаў і балотаў, бо можа быць прычынай ня толькі фэбры, але і сьмяротнага карбункула. Вельмі шкоднай ёсьць вада, у якой мачыўся лён ці каноплі, бо яны пры мачэньню выдзяляюць асаблівыя су часткі, якія для жывёлы зьяўляюцца проста атрутай.

Улетку падчас упалаў жывёла патрабуе асабліва шмат вады і тады яны яе мусяць мець даволі — не абап'юцца. Ня можна толькі паіць жывёлу змучаную. Скаціне гэта ня шкодзіць, бо яна ходзіць паволі. Затое коням, якія мучацца ці то пры цяжкай працы, ці пры шыбкім ходзе, — сьцюдзёная вада можа вельмі зашкодзіць. Таму перш чым напаіць каня, трэба яго добра астудзіць. Найлепш прад паеньнем каня даць яму крыху сухога сена, а калі б яго не хацеў есьці, пык крыху яго змачыць вадой.

Здараецца так, што трэба каня напаіць падчас пільнай працы ці ў дарозе. Тады можна яму паз воліць піць даволі, але па напаеньню трэба зараз-жа ўзноў пачаць працаваць ці ехаць. Ня можна затое пазволіць, каб сагрэты і змораны конь напіўшыся праз даў жэйшы час адпачываў.

Асабліва сьцюдзёная вада для жывёлы шкодная, бо раптам схаладжвае усе нутранасьці і асабліва страватраўчы апарат. Таму каб ня мець благіх насьледкаў паеньня сьцюдзёнай вадой, асабліва калі жывёла п'е з вялікай прагнасьцю, радзяць такую ваду ў жлобе ці нават і ў вядрэ прыцярушыць сенам. Жывёла тады мусіць час ад часу ўзяць я зубы якое калiўца сена і грызучы яго — піць вальней.

Колькі вады трэба для жывёлы, залежа гэта ад шмат якіх прычын. І так у дзень патрабуе конь: — 15—25 клгр. вады, карова — 25—40 клгр., авечка — 1—3 клгр. Калі жывёла корміцца пашай сухой, як сечка, сена, авёс, вотрубы, макух, дык п'е больш, а калі такая жывёла дастае больш зялёнак, дык арганізм ейны вымагае вады менш. Тут трэба зьвярнуць увагу, каб за хаваць меру пры паеньні жывёлы жвачнай (асабліва скаціны), кормленай сьвежай канюшынай, бо ў такім выпадку вельмі лёгка здарэецца ўздуцьцё, якое без належнага дагляду часта канчаецца сьмерцю.

**Паз.**

*Ці Вы ўжо аплацілі падпіску за „Самапомач" да канца гэтага году? Найвышэйшы час зрабіць гэта зараз-жа разрахунковым пераказам. Нумар нашага разрахунку 40.*

# Ліставы калечнік, шкоднік яблыняў і вішняў.

Пад канец траўня і ў пачатку чэрвеня, або ў ліпні, жніўніці нават у пачатку верасьня, можна пабачыць, што частка лістоў яблыняў і вішняў выглядае быццам папараная. Прыглядзіўшыся бліжэй, відаць, што гэтыя лісты скручаныя да гары, а плошча іх пакрытая кволай павуцінкай. Пад гэтаю павуцінаю знаходзіцца жоўта-зялёная з чорнымі бародаўкамі вусенічка, надта рухавая, якая калечыць лісты, выядаючы з іх зялёныя часткі. Пашкоджаны гэтак ліст ссыхае і набірае іржавага колеру.

Усё гэта работа вусеніцы малога матылька, каторага завуць **ліставым калечнікам** *(Simaethis pariana L.)*.

Самыя матылькі гэтага гатунку невялікія, ад канца крыльляў уздоўж маюць усяго каля аднаго сантымэтра. Выступае ён у нас у двох пакаленьнях.

Перазімаваўшыя нейдзе пад карой пладавых дрэваў, ці сярод апаўшых лістоў, матылькі лётаюць ужо ў пачатках мая. Гэта якраз тагды, калі маладыя яблынкі і вішні маюць ужо новыя лісточкі. Матылькі калечніка складаюць на ніжняй старане гэтых лістоў свае яечкі. Па 10 днях выклёўваюцца з іх вусенічкі. Вусенічкі гэтыя спачатку жывуць на ніжняй старане лістоў, пасьля, у меру росту, пераходзяць на іх верхнюю плошчу. Пасьля 14 дзён ад часу выкляваньня з яечак, вусеніцы зьяўляюцца зусім сьпелымі і ператвараюцца ў пачваркі. Пач_

вые і акопніны. А знача і тут патрэбна чаргаваньне: год — адна расьліна, другі год — другая.

Паводле здольнасьці выкарыстовываць сьвежапаложаны хлеўны гной, навука дзеліць гаспадарскія расьліны на тры часьці:

*1. расьліны, якія сьвежа паложанага хлеўнага гною патрабуюць:* бульба, капуста, бручка, кармовыя буракі;

*2. расьліны, якія сьвежа паложаны гной толькі церпяць* і найлепш-бы ўдаваліся ў другой зьмене па хлеўным гнаі: авёс, мак, травы, цукровыя буракі, бульба і

*3. расьліны, якія вельмі цяжка могуць карыстаць з сьвежа паложанага гною:* лён, ячмень, грэчка, пшаніца, жыта, канаплі.

Усё гэта прыймаючы пад увагу, пры састаўляньні севазвароту — усёроўна на колькі палёў, — трэба кіравацца наступнымі правіламі:

1. каб пасьля расьлін, якія ўзбагачываюць глебу на азот (лубін, канюшына), прыходзілі расьліны-якія гэтага азоту ў глебе патрабуюць (збожа, акопніны);

2. чаргаваньне расьлін на тым-жа полі мусіць быць такое, каб папярэднія расьліны пакідалі глебу ў стане прыгодным для расьліны новапрыходзячай;

3. сьцісла выкарыстоўваць гнойную сілу глебы;

4. паміж расьлін, якія закарэніваюцца мелка (збожа), трэба даваць расьліны, якія закарэніваюцца глыбака (лубін, канюшына);

5. не даваць па сабе расьлін, якія гэтага ня церпяць, напр. канюшына па канюшыне;

6. не даваць па сабе расьлін, якія ці то памагаюць зарастаньню поля розным зельлем (збажавіны), або якія хварэюць на адну і тую самую хваробу;

7. паасобныя расьліны даваць у севазвароце ў такім парадку, каб папярэдняя расьліна мела досыць часу высьпяліцца, а наступная — каб мела досыць часу на прыгатаваньне пад сябе глебы (дзеля гэтага кепска сеяць азіміны пасьля акопнінаў);

8. жыта ня любіць перапульхненай глебы, напр. пасьля акопнінаў.

Карысьці правідловага севазвароту наступныя: 1. лепш выкарыстоўуюцца кармовыя сучасткі глебы і паветра; 2. даецца магчымасьць больш садзіць і сеяць розныя пашныя расьліны і гэтым самым пазваляецца ўнезалежніць гадоўлю жывёлы ад нястачы сенажацяў; 3. пазваляецца больш месца даваць пад акопніны, што вельмі карысным бывае там, дзе на акопніны ёсьць добры збыт (бравары, цукроўні, блізкасьць места); 4. больш роўнамернае праз цэлы год разлажэньне запатрэбаваньня сілаў людзкіх, жывёлiных і машыновых; 5. меншае рызыка неўраджаю.

Паміма гэтых бесьпярэчна добрых старон шасьціпалёвага і шырэйшага севазвароту, трэба ведаць, што ён патрабуе вельмі шмат працоўных сілаў і ка-

варкі знаходзяцца таксама на лістох, схаваныя ў вельмі густых, белых вопраднях даўжыні каля 1 сантымэтра Па 9—10 днях вылятаюць ужо з іх матылькі першага пакаленьня. Наагул цэлае разьвіцьцё аднаго пакаленьня трывае ад 32 да 42 дзён, што залежыць ад розных вонкавых абставінаў, нпр. цяпліні паветра і г. п.

Вусеніцы першага пакаленьня выступаюць ад пачатку мая да чэрвеня, другога—ад пачатку ліпня да пачатку верасьня. Другое пакаленьне рабіць заўсёды больш шкоды, як першае. Матылі гэтага пакаленьня перазімоўваюць аж да вясны.

Наагул змагацца з калечнікам можна апырсківаючы дрэвы парыжскай зяленяй у пачатках мая і ў пачатку ліпня, гэта значыць, калі выклёўваюцца вусенічкі і ня шчэпліваюць яшчэ берагоў лістоў павуцінай. На гэты спосаб цяпер ужо запозна, але астаецца другі. Цяпер якраз вусеніцы ядуць ужо зялёныя часткі лістоў. А дзякуючы таму, што яны даволі трусьлівыя, можна страсаць іх з дрэваў, зала жыўшы на пні ліпкія паяскі. Апаўшыя вусеніцы, хочачы ўзьлезьці назад на дрэвы, прыліпаюць да паяскоў і гінуць.

*Мікалай Караленка.*




*Kutok dla haspadyniaŭ*

## Saleńnie ahurkoŭ.

Ahurki solim u druhoj pałovie miesiaca žniŭnia, bo čym paźniejšy zbor, tym tryvalejšyja ahurki. Da saleńnia vybirajem ahurki śviežyja, siaredniaj vialičyni, ćviordyja, biaz plam i pakalečańniaŭ. Inakšyja skora psujucca. Najlepš da saleńnia nadajucca ahurki adrazu sarvanyja z hrady, adnak-ža takich nie zaŭsiody moža chapić da praznačanaha načyńnia. Dziela hetaha mohuć być ahurki sarvanyja i raniej, tolki tady treba ich pierachavać u zimnym miescy.

Bočka da ahurkoŭ pažadana, kab była dubovaja. Ale možna ŭžyvać i bočki ad sieladcoŭ. Tolki treba jaje dobra vymyć i vyparyć, kab nie addavała. Na dno pryhatavanaj bočki kładziecca častka višniovaha, ci dubovaha listu, kavałak chrenu, tureckaha piercu, kropu i listoŭ čornych parečkaŭ i kolki zubkoŭ časnaku. Paśla kładziecca ščylna rad dobra vymytych ahurkoŭ. Na vierch ahurkoŭ kładziecca iznoŭ rad prypravaŭ, jak byli pałožany na dno bočki, tolki aprača chrenu i tureckaha piercu. I tak čaradujučy, układajem ahurki až pad vierch bočki. Na vierch dajecca bolšaja kolkaść prypravaŭ i zalivajecca solenaj vadoj. Na bočku (sieladoŭku) biaruć 2 khr. soli i 15 hram. saletry, raspuskajuć ŭ vadzie i zalivajuć ahurki tak, kab byli ŭsie zaniaty vadoj. Paśla prykryvajuć niaščylnym denkam i pryciskajuć kamieniem. Kali znojducca na ahurkoch pleśni, to treba ich žbirać, kab nie zastareli. Trymać treba ŭ zimnym miescy.

M. Š.

## Ad čaho zaleža cana jajok.

1. Ad śviežaści—tamu nia varta nadta doŭha pierachoŭvać jajki ŭ čas darażeńnia. Što raz bolš pašyranaja ciapier proba praśviatlańnia jajok lohka pakaža niaśviežaść jajka. Dziela taho, zamiest narażacca na niepatrebny styd i stratu, lepš jajki ŭ svoj čas zakanservavać i jak takija paśla pradavać. Asabliva dobra płaciać za jajki, na skarłupie jakich napisana data źniasieńnia. Na hetkija jajki ŭsiudy vialiki popyt, bo spažyviec achvotna daść vyšejšuju canu za tavar peŭny i śviežy.

2. Ad vialičyni. Ciapier što raz čaściej kuplajucca jajki, asabliva ŭ kooperatyvach, na vahu, choć pry hetym sposabie kuplańnia apłačvajucca tolki vialikija jajki. Heta praktyčna i spraviadliva, bo kožny moža trymać rasu kurej, jakija niasuć vialikija jajki, jak leghorny, karmazyny, a taksama susseksy i plimutroki.

3. Ad čystaty. Zabrudžanyja jajki chutka psujucca, a taksama nie nadajucca da konservavańnia. Myć brudnych jajok nia možna, bo ad hetaha jany psujucca jšče chutčej. Kab jajki byli čystymi, treba ŭ čystacie trymać kurynyja hniozdy, časta źmianiać padścilku, a ŭ bałotnistych vakolicach treba hniozdy pamieščać vysaka, kab kury, idučy da ich pa drabincy, abčyščali na ščeblach svaje nohi. Treba taksama dbać ab toje, kab kury nie chvareli na razvalnieńnie, bo tady jany najbolš brudziać hniozdy i jajki.

4. Ad koleru skarłupy. Koler skarłupy ŭ sapraŭdnaści nijakaha značeńnia nia maje, ale tamu, što zahranicaju, kudy pradajom jajki, lubiać ciamniejšy koler skarłupy

піталаў. Дзеля таго ў ваколіцах, дзе зямля танная, а няма пэўнага рынку збыту, там з завядзеньнем шасьціпалёўкі трэба быць асьцярожным.

**Правілы пераходу да севазвароту.** Карысьці правільнага севазвароту — усё роўна на колькі палёў — так ясныя, што доказаў не патрабуюць. Аднак трэба памятаць і аб тым, што праўдзівы севазварот магчымы толькі ў гаспадарцы на хутары. Калі-ж да сягоньня ня ўсе хутары маюць правільны севазварот, дык найчасьцейшай прычынай гэтага ёсьць тое, што цяжэй севазварот залежыць, як на заложаным ужо гаспадарыць. Таму трэба пазнаць галоўныя правілы, якімі пры закладаньні севазвароту трэба кіравацца.

Ня можна прадставіць сабе гаспадаркі, у якой севазварот можна было б завесьці адразу і на ўсім абшары. Перашкаджае гэтаму наўперад тое, што кожная такая гаспадарка ўжо такі ці гэтакі севазварот мае, а пасьля — сам севазварот залежа ад якасьці грунту, ад аддаленьня палёў, ад іхняй фігуры і ад укладу тых-жа палёў.

Што да якасьці глебы, дык у адзін севазварот ня можна лучыць глебы зусім да сябе непадобныя, напр. лёгкія ці падмоклыя з цяжкімі, вязкія з сухавеямі і г. д. У праціўным выпадку на слабшых галёх рэгулярна прападала-б канюшына ці пшаніца, а на вязкіх — у макрэйшыя гады прападала-б бульба. Дзеля гэтага ў такіх выпадках у аднэй гаспадарцы трэба закладаць асобныя два, а часам нават і тры севазвароты, якія аднак узаемна дапоўнівалі-ся-б, гэта знача што давалі-б гаспадарцы тое, што для яе патрэбна. У гэткай гаспадарцы на грунтох моцных (гліна, глей) сеецца канюшына, пшаніца, ячмень, буракі пашныя (ці цукровыя), некаторыя расьліны стручковыя ды іншыя больш пераборлівыя расьліны. На грунтох пяшчана-гліністых сеецца менш пераборлівыя стручковыя расьліны, жыта, авёс і бульба. Урэшце на грунтох пяшчаных сеецца жыта і лубін.

Асобны выпадак мае месца, калі на хутары з цяжкой клустай глебай здарыцца невялікі кусок глебы лягчэйшай. Гэткага куска грунту выдзяляць дзеля асобнага на ім севазвароту няма патрэбы, а толькі напр. замест пшаніцы пасеяць на ім жыта, а замест канюшыны – сэрадэлю, замест буракоў— бульбу. Інакш аднак справа маецца тады, калі большая часьць грунтоў у гаспадарцы слабая, пяшчаная, а сярод яе знайдзецца якая ніўка зямлі мацнейшай: гэткую ніўку трэба выдзяліць і ўлажыць для яе асобны севазварот, наўперад расьлінаў пашных, якія не ўдаюцца на глебах лёгкіх, напр. мешанкі расьлінаў стручковых, пашных буракоў, канюшыну й інш.



varta trymać kurej, jakija niasuć jajki z ciomnaju skarłupaju. Heta karmazyny, susseksy i plimutroki. Leghorny niasuć jajki biełyja.

5. Ad smaku. Dziela taho, što kury našy žyvuć na voli i majuć mahčymašć volna žbirać sabie jadu — jajki ichnija smačniejšyja ad jajok kurej trymanych zapiortymi. Zialonaja paša papraŭlaje smak jajok. Tamu treba štodzień davać kuram siečanuju krapivu dy nasušyć jaje na zimu — ad jaje kury akramia taho lepš niasucca. Maładyja listki kaniušyny, uletku śviežyja, a ŭzimku sušanyja taksama papraŭlajuć nia tolki nosnašć kurej, ale i smak jajok. Miascami dadajuć da pašy kuram ziarniaty anižu j kminu, zialonaj cybuli j kropu, a da pitnoj vady tym-ža kuram dalivajuć kolki kaplaŭ jodavaj tynktury. Inž. O. D.

# Гаспадарская хроніка.

**Коняў для войска будзе купляць рэмонтная камісія ў гэткім парадку: 5.X.—Камень Кашырскі, 6—7.X. — Пружана, 12.X — Паставы, 14.X—Вялейка старая, 15.X — Багданава, 20.X - Горадзен, 21.X — Шчучын Беластоцкі, 29.X — Берасьце, 4.XI—Браслаў, 5.XI - Сьвянцяны, 6 XI—Новая-Вялейка, 16.XI—Маладэчна, 17.XI — Шчучын Наваградзкі ,18.XI—Наваградак,19.XI—Баранавічы, 20.XI — Стоўпцы. — Пачатак усюды а гадз. 9-й раніцы.**

**Міжнародны Малачарскі Кангрэс адбудзецца сёлета ў Бэрліне ў міжчасе 22—28 жніўня.**

**Плянтацыі кашыкарскай вербы звольненыя ад прамысловага падатку; вы сьняе гэта цыркуляр Міністэрства Скарбу з 30 чэрвеня сёл. Натуральна, важна гэта толькі тады, калі плянтацыі знаходзіцца ў гаспадарцы, якія ня маюць асобных паза гаспадаркай складаў ці крамаў. Ня плаціць падатку нават тады, калі выгадаванае пруцьце бывае ў гаспадарцы „абелена“ — зьнята кара. —**

**Крэдыты на ўспамогу хатняга промыслу (ткацтва і інш.) з Фонду Працы прызнаны былі ў суме 450 тыс. зл. Зьвяртацца па іх можна ў Віленскую Земл. Палату.**

**Перагляд жарабцоў. На падставе закону з 13.III.34. аб надзоры над гядоўляй коняў, усе жарабцы ўроджаныя ў 1934 г. і старшыя, а таксама тыя, якія маюць пасьведчаньні прызнаньня з важнасьцю да 31.XII.37 г., павінны быць прагледжаны Кваліфікацыйнай Камісіяй, якая на нашых землях пачала ужо ўрадаваць: 8 жніўня (Ліда) на абшары Навагрaдчыны і пераняcецца на абшар Віленшчыны 6 верасьня (Лынтупы). Для тых жарабцоў, якія будуць прызнаны прыгоднымі як расплоднікі, будуць бясплатна выданы адпаведныя дакуманты. Тыя-ж жарабцы, якія да расплоду будуць прызнаны няздатнымі, павінны быць выкастраваны найпазьней да 31.III.38 г. Дакладны сьпіс месцоў, дзе назначаны перагляд жарабцоў, пададзены ў асобных абвестках, якія разасланы ў гміны. Незастасаваньне да гэтых вымогаў, або прыпусканьне непацвержданых племнікаў будзе карацца вялікімі штрафамі.**

# Што чуваць на сьвеце

## Забурэньні з-за конкордату.

Югаславія даўно ўжо вяла перагаворы з Ватыканам аб заключэньні конкордату (умовы аб правох Каталіцкага Касьцёла). У міжчасе ўлада пайшла ў адстаўку і прыйшла ўлада новая, якая гэты конкордат падпісала. Тады староньнікі „старой“ улады выступілі проціў гэтай-жа ўмовы, даказваючы, што гэта ўмова паніжае Праваслаўную Царкву ў краю. У помач ім прыйшло праваслаўнае духавенства. Па ўсім краю пачаліся бурныя дэмонстрацыі. Царкоўныя ўлады загразілі, што вылучаць з царквы ўсіх праваслаўных міністраў і пасloў, якія будуць галасаваць за конкордат. На дабаўку ў гэту пару йшчэ памёр ад хворасьці сэрца патрыярх сэрбскай Праваслаўнай Царквы Варнава... І міма ўсяго гэтага ўрадавая большасьць парляманту ўсё-ж галасавала за конкордат. Астаецца йшчэ галасаваньне ў сэнаце.

## Кітайска-японская вайна на валаску.

Японія, загарнуўшы ад Кітаю вагромністую краіну Манджурыю, яшчэ не насыцілася і йдзе ў Кітай глыбей. А пасвараныя кітайцы, хоць іх і вельмі многа на лік, ня могуць тымчасам даць адпору. Перакупленыя кітайскія генэралы аддалі ўжо блізу што бяз бою японцам сталіцу Пэкін. Але пытаньне, што йшчэ будзе далей, бо рэшта кітайцаў пасьпешна зброяцца і прыгатаўляюцца даць адпор. Усімі прыгатаваньнямі патрыятычных кітайцаў кіруе маршал Чанг-Кай-Шэк. Цікава, што гэты чалавек, які фактычна кіруе ўсім Кітаем, ёсьць хрысьціянінам, хоць самі кітайцы ў масе сваей зьяўляюцца нехрысьціянамі.

## Гішпанская вайна.

Пачатая гішпанскімі фашыстамі год таму з лішнім хатняя вайна далей разьвіваецца. Паўстанцы хоць занялі большую часьць краю — аднак ня могуць здабыць сталіцы краю — Мадрыду і сталіцы аўтаномнай рэспублікі Каталёніі — Барсэлёны. Далей ідуць заўзятыя, крывавыя баі, але аканчальнай перамогі ня відаць ні па аднэй ні па другой старане.

## Прыгатаўляюцца да вайны.

Ведамыя нямецкія фабрыкі зброі Круппа, каб дастаць заказ на дастаўку зброі для Эгіпту, закладаюць там аддзел сваіх заводаў. Таксама быццам закладаюць яны свой аддзел і ў брытанскай Індыі.

## А ў Саветах „чысьцяць“.

Савецкім „чысткам“ канца ня відаць. „Чысьцяць“ цяпер ужо тых, хто перш сам „чысьціў“. Былі чуткі, што арыштаваны самыя вышэйшыя прадстаўнікі савецкай юстыцыі: б. камісар Крыленка і обэр-пракурор — Вышынскі. Але ці гэта праўда — тымчасам загадка. Праўдай затое ёсьць, што цяпер, пасьля расстраляньня Тухачэўскага і 7-х іншых генэралаў, пайшла „чыстка“ і ў Чырвонай Арміі, асабліва на Далёкім Усходзе. Няведамы лёс камандзера усх.-сібірскай арміі марш. Блюхера, а кажуць, што ня зусім пэўна чуецца і сам камісар вайны Варашылаў. Можа й так, а можа й не.

## Кангрэс сіоністаў.

З жніўня сёл. ў Цюрыху (Швайцарыя) пачаліся нарады сусьветнай жыдоўскай нацыянальнай арганізацыі — сіоністаў. Адна з важнейшых спраў, над якой мае радзіцца кангрэс, гэта становішча да ангельскай ɩ рапановы падзелу Палестыны на часьці жыдоўскую і арабскую.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *10.VIII.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 20.50—22.00 |
| Пшаніца . . . . . | 27.50—29.00 |
| Ячмень . . . . . . | 19.50—20 00 |
| Авёс . . . . . . . | 21.00—23 00 |
| Грачыха . . . . . . | 26.25—26.75 |
| Мука пшонная 70-75% | 30.25 30 75 |
| Мука жыт. I О—50%... | 34.25—34.75 |
| „ „ I О—65%... | 32.00—32.50 |
| „ „ II 50-65%. . | 30.00—31.00 |
| Мука разовая да 95%... | 25.50 26 00 |
| Вотрубы пшонныя . | 16.25—16.70 |
| Вотрубы жытнія . . | 15.00—15.50 |
| Лубін сіні . . . . . | 15.00—15.50 |
| Семя лянное в. 90% | 38.25 -39.25 |

**Малочнае,** *10.VIII.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | —2.80 |
| „ „ дэталь | —3.10 |
| Масла сталовае гурт . | —2.70 |
| „ „ дэталь | —3.00 |
| Масла соленае, гурт. | —2.70 |
| „ „ дэталь | —3.00 |
| Сыр эдамскі чырв., гурт. . | —2.00 |
| „ „ „ дэталь | —2.40 |
| „ „ жоўты, гурт | —1.80 |
| „ „ „ дэталь | —2.20 |
| Сыр літоўскі гурт . | —1.55 |
| „ „ дэталь | —1.80 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 3.60—4 20 |
| „ ў дэталю за штуку | 6½—7½ гр. |

